Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года | 40 (548) 7 кастрычніка 2010 года | Кошт свабодны



# Ìÿðêóåööà ïàäï³ñàöü ïàãàäíåííå àá à¢òàìàá³ëüíûì êàíòðîë³ íà ìÿæû

Аляксей Арэшка, БелаПАН

Беларусь разлічвае ў найбліжэйшы час падпісаць міжурадавае пагадненне аб арганізацыі транспартнага (аўтамабільнага) кантролю на знешняй мяжы Саюзнай дзяржавы.

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення стратэгічнага развіцця, каардынацыі і інвеставання транспартных сістэм Міністэрства транспарту і камунікацый Павел Бажанаў.

Ён адзначыў, што ў міжнароднай выставе «Транспарт і лагістыка» і Беларускім транспартным кангрэсе, чакаецца ўдзел міністра транспарту Расіі Ігара Лявіціна. Плануецца, што разам са сваім беларускім калегам ён абмяркуе пытанні, звязаныя з названым пагадненнем.

«Мы спадзяемся, што ў найбліжэйшы час усе фармальнасці будуць выкананы», — адзначыў Бажанаў.

Як паведамлялася раней, праект беларуска-расійскага пагаднення аб ажыццяўленні транспартнага кантролю прадугледжвае, што бакі будуць ажыццяўляць на сваіх участках знешняй мяжы Саюзнай дзяржавы ўзгодненыя кантрольныя функцыі ў дачыненні да транспарту, які ўязджае на тэрыторыю Саюзнай дзяржавы і пакідае яе. Пры гэтым плануецца, што на агульнай мяжы двух краін гэтыя функцыі ажыццяўляцца не будуць.

Ðàñîíñê³ ðà¸í

# Íå õàòà, à ãàòýëü ëÿ âîçåðà

Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам у краіне стаў актыўна развівацца экалагічны турызм, а колькасць беларускіх агратурыстычных гаспадарак перавысіла 1100 сядзіб.**

Расонскі раён не толькі з-за сваіх багацейшых зялёных масіваў і 192 вадаёмаў прэтэндуе на нацыянальнае лідэрства ў гэтай сферы. Мясцовая сядзіба “Кролава хата” стала адной з самых вядомых у Беларусі, сюды найбольш едуць госці з розных куткоў Еўропы. Цяпер, бачачы ля возера цэлы прасторны міні-гатэль, нават цяжка паверыць, што былы закінуты склад хацелі парэзаць на дровы. Аднак знайшліся смелыя людзі з Наваполацка Вера і Аляксандр Кролы, купілі паўразбураную пабудову і зрабілі з яе з цягам часу ледзь не драўляны прыгожы церам на прыродзе. Пра гэта месца даведалася сёлета група французскіх студэнтаў з Парыжа і засталася ў захапленні ад побыту тут. Як і іншых іх суайчыннікаў, маладых парыжан зацікавіў музей Айчыннай вайны 1812 года, створаны ў Клясціцкай СШ. Гаспадары сядзібы настолькі “раскруціліся” праз Інтэрнэт, што ў іх прасторным доме гучалі мовы ўжо многіх народаў кантынента. Гасцей прывабліве сучасны еўрапейскі сэрвіс і створаны тут камфорт з душам, прыбіральняй, беларускія стравы і гасціннасць гаспадароў, мясцовых жыхароў.

# Ó Â³äçà¢ñê³ì êàëåäæû ìûþööà ñîíå÷íàé âàäîé, à ñâÿòëî çäàáûâàþöü ç âåòðó




**Відзаўскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж, усталяваўшы экалагічна чысты "вятрак" для здабывання электраэнергіі, вырашыў не спыняцца на дасягнутым і пачаў выкарыстоўваць энергію сонца. Цяпер студэнты ў інтэрнаце Відзаўскага каледжа мыюцца "сонечнай" вадой, якая падаграваецца адмысловымі геліякалектарамі, распавёў дырэктар навучальнай установы Міхаіл Смірноў.**

Геліякалектары магутнасцю 15 квт усталяваныя на даху пяціпавярховага будынка інтэрната і даюць магчымасць падаграваць ваду для 8 душавых кабін. У сонечны дзень без выкарыстання дадатковых крыніцаў падагрэву тэмпература вады дасягае 80 градусаў. Як адзначыў Міхаіл Смірноў, сонечны калектар з'яўляецца распрацоўкай беларускага прадпрыемства "Полімерконструкция". Па падліках, навінка акупіць сябе цягам двух з паловай гадоў. Сродкі на набыццё геліякалектара каледж атрымаў дзякуючы ўдзелу ў праграме малых грантаў Праграмы развіцця ААН/ГЭФ.

Ветраную ўстаноўку Відзаўскі каледж таксама набыў пры падтрымцы ПРААН/ГЭФ. Гэты вятрак здольны пры хуткасці ветру 6 м/с выпрацоўваць 5 квт.ч электраэнергіі. За год установка дае 14300 квт, што дазваляе зэканоміць 21 т умоўнага паліва. "Ветравое" святло выкарыстоўваецца для асвятлення памяшканняў комплексу навучальнай гаспадаркі.

Нароўні з нетрадыцыйнымі для Беларусі крыніцамі энергіі ў каледжы выкарыстоўваюць і мясцовыя віды паліва. Цеплагенератар у навучальна-лабараторным корпусе працуе на адыходах дрэваапрацоўкі і эканоміць навучальнай установе Br144 млн. штогод. У класах таксама ўсталяваныя энергазахавальныя лямпы.

У цэлым па навучальнай установе па рэалізацыю праектаў па энергазахаванні сёлета скарыстана больш за Br200 млн.

Відзаўскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж вядзе падрыхтоўку навучэнцаў па 14 працоўных кваліфікацыях для аграрнай, лясной, будаўнічай галінаў і грамадскага харчавання. У каледжы навучаюцца 365 навучэнцаў, у тым ліку грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Каледжу належыць лясная навучальная база плошчай 95 га, у якую ўваходзіць лесагадавальнік; навучальная гаспадарка з фермай буйной рагатай жывёлы, трусагадоўчая і страусіная фермы, сады з ягаднікамі. Навучальная ўстанова арандуе два возеры і мае сваю рыбалоўчую брыгаду.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ëåñàâîäû ëåïøûÿ çà õëåáàðîáà¢

Кастусь Александровіч

**На прайшоўшым нядаўна ў Лідзе XIV рэспубліканскім кірмашы працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2010” упершыню за іх гісторыю сярод пераможцаў не было прадстаўнікоў Пастаўскага раёна.**

Сёлета ў параўнанні з мінулым годам тут недабралі з-за ўмоў надвор’я амаль 31 тысячу тон збожжа, ураджайнасць зерневых зменшылася больш чым на 14 цэнтнераў з гектара. Аднак без свайго лаўрэата на гэтым свяце Пастаўшчына не засталася, бо з ўзнагародай на Дажынкі з’ездзіў дырэктар мясцовага лясгаса Анатоль Сапрончык. Узначальваемы ім калектыў стаў пераможцам у сваёй намінацыі ў Рэспубліканскім аглядзе-конкурсе на лепшае землекарыстанне і добраўпарадкаванне. У гэтай гаспадарцы падляснымі ўгоддзямі занята амаль 80 тысяч гектараў. У лясных масівах не было дапушчана пажараў, хвароб дрэў ад розных шкоднікаў. Прыгожа глядзяцца абсталяваныя мясцовымі лесаводамі зоны адпачынку, лесапасадкі вакол асноўных аўтатрас. Журы конкурса ўлічыла, што пастаўчане зарабілі каля 30 млн. рублёў даходаў ад прадукцыі дарой лесу. Новыя маладыя лясы сёлета былі пасаджаны і якасна дагледжаны на 153 гектарах, вышэй за нарматывы запасы вырашчанай драўніны, што і прадвызначыла ў выніку такое высокае прызнанне дзейнасці калектыва.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Àäðàäæýííå ãàþ÷àé êðûí³öû

Кастусь Александровіч

**Многага ўдаецца дабіцца ў жыцці толькі апантаным, цалкам захопленым добрай ідэяй людзям.**

Вось і жыхар вёскі Язна, што ў Мёрскім раёне, Алег Вайцяховіч за год з нечым зрабіў столькі, што пад сілу цэлай будаўнічай брыгадзе. Аднак цяпер гэты лясны куточак па суседству з Глыбоцкім раёнам, які ў народзе ведаюць як крыніцу святога Яна, набыў вельмі прыгожы і дагледжаны выгляд. Для мясцовых і не толькі вернікаў яе ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне айцом Чарнеўіцкай царквы Сергіем стала вялікай радаснай падзеяй. Ад прыхаджан атрымаў у падзяку абраз Езуса Збаўцы яшчэ адзін фундатар будоўлі, раней мясцовы жыхар, а цяпер масквіч Васіль Лукашэвіч, які цалкам падтрымаў гэту ідэю значнымі фінансавымі ўкладаннямі. Былі набыты гранітны стол-кораб для збегу вады, прыгожае кальцо для студні, неабходная тратуарная плітка. Праўда, прыйшлося Алегу набыць за грошы памочнікаў давесці да ладу новую купель. Дапамог яму ў распілоўцы дошак Глыбоцкі райкамунгас, свой пасільны ўклад у гэту будоўлю ўнеслі педагогі і вучні Язненскай СШ, а адна настаўніца з Чарнеўічаў абсадзіла гэта святое месца кветкамі. У выніку атрымалася, напэўна, адна з самых лепшых у Беларусі гаючых крыніц са святой вадой. У любую пару года сюды прыязджаюць набраць вады і ачысціцца фізічна і духоўна заўсёды шмат людзей, якія ў далейшым будуць толькі радавацца пераменам новай-старой крынічкі.

## Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 07.10.10 | | | | пятн. 08.10.10 | | | | сб. 09.10.10 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -1 | +1 | +7 | +2 | 0 | +3 | +7 | +4 | +1 | +3 | +9 | +4 |
| Ціск, мм | 762 | 763 | 763 | 763 | 763 | 763 | 762 | 761 | 760 | 760 | 758 | 756 |
| Вільготнасць, % | 97 | 89 | 61 | 86 | 93 | 89 | 72 | 87 | 96 | 97 | 68 | 90 |
| Вецер м/сек | Ю 2 | Ю-В 2 | Ю-В 4 | Ю 2 | Ю-З 1 | С 1 | В 1 | С-З 1 | С 2 | С-В 3 | С-В 3 | С-В 3 |
| | | 06:57 | 17:43 | | | 08:30 | 18:00 | | | 10:03 | 18:22 | |

| | нядз. 10.10.10 | | | | 11.10.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -1 | 0 | +7 | +3 | +1 | +3 | +7 |
| Ціск, мм | 754 | 753 | 751 | 749 | 747 | 745 | 745 |
| Вільготнасць, % | 100 | 100 | 70 | 90 | 94 | 99 | 90 |
| Вецер м/сек | С-З 4 | С 3 | С 2 | С-З 2 | З 4 | З 4 | С-З 2 |
| | | 11:33 | 18:50 | | 12:54 | 19:30 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На падрыхтоўку і правядзенне магчымых двух тураў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі выдзелена 37,7 млрд. рублёў, на кожнага выбаршчыка па 1.3 еўра. Большая частка расходаў у суме амаль 31 мільярд пойдзе на зарплату арганізатараў выбараў па смеце, зацверджанай Цэнтрвыбаркамам. Напярэдадні гэтай кампаніі мала гаворыцца аб тым, што ў бліжэйшыя гады краіне трэба будзе выплаціць па свайму знешняму доўгу і для пагашэння еўрабондаў 8 млрд. $, асабліва цяжкімі для беларусаў стануць 2013 і 2014 гады, на якія прыйдзецца пік такіх плацяжоў.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Францыя.** Па краіне зноў пракацілася хваля маштабных забастовак прафсаюзаў з выхадам на вуліцы больш 2 мільёнаў французаў у знак пратэсту супраць пенсійнай рэформы.

**Іран.** Прэзідэнт М. Ахмадзінежад зноў шакіраваў свет прамовай аб тым, што за вядомым тэрактам у Нью-Йорку 9 верасня стаяць некаторыя асобы з амерыканскага ўрада.

**Новая Зеландыя.** Вучоныя не знайшлі пакуль прычыну масавага выкідвання на сушу паблізу вострава Паўночны адразу 75 вялізных кітоў, з якіх 25 неўзабаве загінулі.

**Бельгія.** Еўрапарламент прыняў новы "Закон пра бяспеку паставак газу", які стварае інфраструктуру для падачы газу з розных крыніц і забяспечыць энергабяспеку краін ЕС.

**ЗША.** Спецыялісты пацвердзілі, што кампанія ВР поўнасцю спыніла буйную ўцечку нафты ў Мексіканскім заліве, якая прадаўжалася з канца красавіка да 15 ліпеня.

**Індыя.** На некалькі гадзін быў спынены рух цягнікоў у штаце Заходняя Бенгалія, дзе таварны поезд пратараніў статак сланоў і загінулі на пуцях 7 жывёлін, 1 слон быў ранены.

**Расія.** Цэнтрабанк РФ зноў папрасіў Дзяржаўную Думу разгледзець законапраект аб спыненні выпуску 1- і 5-капеечных манет і акругленні сум разлікаў да 10 капеек.

**Украіна.** Кіраўнік урада М. Азараў зноў пацвердзіў, што яго краіна працягне дабівацца зніжэння цаны паставак расійскага газу і перагляду раней заключанага кантракта.

**Швейцарыя.** Швейцарска-латвійская кампанія "DDWHolding" выдзеліць 28 млн. еўра на будаўніцтва санаторыя на 600 месц у Беларусі ля гарпасёлка Відзы на Браслаўшчыне.

**Японія.** Японскі суд вызваліў арыштаванага капітана рыбалоўнага судна КНР пасля таго, як Кітай вырашыў у знак пратэсту спыніць кантакты і супрацоўніцтва ў розных сферах.

**Румынія.** Да акцый пратэсту супраць скарачэння з-за крызісу зарплат і рабочых месц і за адстаўку ўрада краіны ў сталіцы Бухарэсце далучыліся і больш 6 тысяч паліцэйскіх.

**ЗША.** Адзін з найбагацейшых людзей свету Біл Гейтс вырашыў пакінуць сваім траім дзецям толькі невялікую частку сваёй спадчыны, яго багацце складае больш 55 млрд. $.

**Швейцарыя.** Паліцыі Жэневы прыйшлося аплаціць рамонт аўто п'янага кіроўцы-пенсіянера, бо ў ДТЗ была вінавата патрульная машына паліцэйскіх, а афіцэр быў ранены.

**Свазіленд.** Кароль Мсваці III адправіў у адстаўку і затым у турму міністра юстыцыі краіны за ягоную любоўную сувязь у ложку са сваёй 12-й па ліку з 14-ці жонкай.

**Германія.** У гонар восеньскага фестывалю ўраджаю ў горадзе Людзігсбург прайшла незвычайная рэгата на заплывах на лодках, вырабленых з буйных пладоў гарбузоў.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Цана на прыродны газ для Беларусі ў 2011 годзе, як паведаміў расійскі пасол А. Сурыкаў, можа ўзрасці на 10 %, цяпер беларусы за газ плоцяць 194 $ за 1 тыс. кубаметраў.

**Ганцавічы.** Каля райцэнтра разбіўся баявы самалёт знішчальнік МіГ-29 61-й беларускай авіябазы, яго экіпаж з двух пілотаў, падпалкоўніка і маёра загінуў на месцы падзення.

**Мінск.** У Мінжылкамунгасе Беларусі пацвердзілі, што пакуль у краіне не будуць павышаць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, жыхары плоцяць 30 % такіх затрат.

**Столін.** У вёсцы Вялікае Мелешава фермер Аляксей Копец пабудаваў ферму на 1200 кароў, у яго працуе 27 чалавек, ёсць 40 адзінак тэхнікі для апрацоўкі 250 гектараў зямлі.

**Маларыта.** У райцэнтры закрылі дзіцячы сацыяльны прытулак, бо больш 80 дзяцей-сірот адсюль забралі сабе на выхаванне прыёмныя і апякунскія сем'і, іх праца ідзе ў стаж.

**Мінск.** З канвеера сталічнага завода "Атлант" выпусцілі 30-мільённы двухкампрэсарны халадзільнік 6024-й мадэлі, яго падарылі выхаванцам дзіцячага дома №5 у Мінску.

**Баранавічы.** Горад з насельніцтвам 186 тыс. чалавек па выніках апошняга перапісу стаў самым "дэфіцытным" у Беларусі на мужчын, іх жыве толькі 84 на кожных 100 жанчын.

**Магілёў.** На працягу тыдня тут праходзіў папулярны XIII Міжнародны фестываль мультыплікацыйнага кіно "Анімацыйка-2010", які сабраў 122 стужкі з 19 краін свету.

**Мінск.** Новы міністр абароны Беларусі Ю. Жадобін выказаўся супраць змяншэння тэрміну службы ў арміі, генерал супраць і поўнага пераходу салдат на кантрактную форму.

**Жодзіна.** На месцы помніка Леніну, які разваліўся пару гадоў назад, ўлады вырашылі паставіць на ягоным пастаменце помнік знакамітаму дзеячу ВКЛ князю Б. Радзівілу.

**Мінск.** Па ацэнках палітолагаў, рэальныя шанцы сабраць неабходныя 100 тысяч подпісаў для ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах маюць толькі 3-4 зарэгістраваныя прэтэндэнты.

**Барысаў.** Міжгарнізонны суд за язду зноў на падпітку пазбавіў правоў на 5 гадоў і аштрафаваў на 10,5 млн. рублёў прапаршчыка А. Арамнава, чэмпіёна свету і Алімпіяды.

**Гомель.** У абласным цэнтры адкрылі першы ў вобласці гіпермаркет з плошчай гандлёвых залаў 14 тыс. кв. метраў, яго пабудавала адна з буйных расійскіх гандлёвых фірм.

**Ліда.** Да прайшоўшых тут "Дажынак-2010" так і не паспелі ўзвесці сучасны гульнявы спорткомплекс, не завяршылі рэканструкцыю стадыёна, на ўсе аб'екты пайшло 260 млрд.

**Мінск.** Падчас урачыстасцей 15-годдзя Беларускай асацыяцыі журналістаў прайшла прэзентацыя новай кнігі Аляксандра Тамковіча "Лёсы" пра 50 вядомых людзей краіны.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Орша.** На базе льнокамбіната ствараць буйны холдынг па вырошчванні і перапрацоўцы лёну, пакуль льнаводчая галіна, як адзначыў А. Лукашэнка, працуе вельмі дрэнна.

**Віцебск.** З пачатку года на Віцебшчыне на вытворчасці загінула 16 чалавек, 54 сталі калекамі, у шкодных і небяспечных умовах працы заняты 59 тысяч, з іх 17 тыс. жанчын.

**Шуміліна.** Пасля праверкі дзяржкантролю з делегацыі вобласці на "Дажынкі" выручылі лепшага камбайнера СВК "Мішнявічы", бо ў яго быў дапушчаны нявыхад на работу.

**Віцебск**. Кіраўнік вобласці А. Косінец даручыў у кожным райцэнтры ўзвесці жылы дом для маладых спецыялістаў, сёння без жылля 1600 маладых сем'яў педагогаў, 342 медыкаў.

**Дуброўна.** На адным з лепшых у РБ льнозаводзе з сучаснай бельгійскай лініяй якасць паступаючай трасты зноў нізкая, не ўдаецца выканаць заданне па пастаўках валакна.

**Докшыцы**. Пераможцамі рэспубліканскага спаборніцтва сталі адрасу 7 камбайнераў і вадзіцеляў з раёна, з'ездзілі на "Дажынкі", у суседзяў не было ніводнага перадавіка.

**Глыбокае.** У абласную рэгіянальную праграму "Здароўе" уключылі будаўніцтва на тэрыторыі раёна новага аздараўленча-турыстычнага комплекса "Пліса".

**Сянно.** У райцэнтры адкрылі доўгачаканы першы супермаркет з кафетэрыем і банкаматам, на мадэрнізацыю буйной гандлёвай кропкі пайшло 625 млн. рублёў.

**Ушачы**. У катэгорыю сацыяльна небяспечных аднеслі ўлады яшчэ 52 сям'і, вырашана цяпер забраць з такіх 10 гарасем'яў у дзіцячы сацыяльны прытулак 17 дзяцей.

**Віцебск.** Адна з маскоўскіх фірм пачынае тут рэканструкцыю старога кінатэатра "Брыганціна" у цэнтр забаў з трыма кіназаламі 3D і 5D і новым кафэ, яго здача праз год.

**Полацк**. Супраць 32-гадовага судзімага раней жыхара горада распачалі крымінальную справу за ашуканства 40 чалавек, у якіх ён падманным чынам выманіў 302 млн. рублёў.

**Верхнядзвінск.** Пасля апошняга перапісу толькі на тэрыторыі Дзёрнавіцкага сельсавета ўжо ў 4-х некалі буйных вёсках краю засталося дажываць век па аднаму чалавеку.

**Докшыцы.** У райцэнтры адкрылі першы ў вобласці гранітны помнік 55 ваеннаслужачым раёна, якія загінулі ў мірны час пры выкананні абавязкаў тэрміновай ваеннай службы.

**Глыбокае**. У аблвыканкаме горад крытыкаваўся за дрэнную якасць дарог, меней 60 % яго вуліц з нармальным пакрыццём, не выконваецца дзяржстандарт у гэтай сферы.

**Браслаў.** У Відзаўскім прафтэхкаледжы запусцілі ў эксплуатацыю ветраэлектрастанцыю магутнасцю 5 кВт, сродкі на яе набыццё выдзелілі па адной з праграм развіцця ААН.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**17** – столькі ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла зарэгістравалі днямі Цэнтрвыбаркам Беларусі. На працягу месяца іх актывісты будуць хадзіць па кватэрах і дамах, стаяць у дазволеных месцах у пікетах, каб сабраць у падпісных лістах неабходныя 100 тысяч подпісаў. Аднак ужо зараз спецыялісты прадказваюць, што з гэтай колькасці рэальна змогуць далей прадоўжыць прэзідэнцкую гонку толькі 3 – 4 асобы.

Ніхто не сумняваецца, што напярэдзе ў ёй будзе дзейны кіраўнік краіны, які можа пераўзысці неўзабаве тэрмін кіравання дзяржавай "дарагога Леаніда Ільіча", які быў на чале СССР цэлых 18 гадоў, пакуль раптоўна не памёр з-за старасці і хвароб. Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка на гэты раз раптам сфарміраваў сваю вялізную ініцыятыўную групу ў колькасці 8403 чалавек і жадае на гэтых выбарах атрымаць рэальную падтрымку, а "не з пункту гледжання фальсіфікацыі". Для параўнання, 9 гадоў назад у 2001 годзе яго група складала 3830 чалавек, у 2006 годзе збіралі подпісы за беларускага лідара 3073 актывісты.

Цікава, што пры гэтай рэгістрацыі ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі яго аднаго не было сярод прэтэндэнтаў. Неабходныя дакументы прадставіў за гадзіну да сканчэння тэрміну іх падачы па даверанасці міністр адукацыі РБ Аляксандр Радзькоў і прайшоў у ЦВК непрыкметна калідорамі Дома ўраду. Сапраўды, дзейны кіраўнік краіны вытрымаў "гросмайстарскую паўзу", бо публічна не казаў, што мае намер балаціравацца на сваю пасаду чацвёрты раз запар. Пасля рэферэндума 1996 года тэрмін ягоных паўнамоцтваў быў абнулены, і першы раз ён кіраваў Беларуссю цэлых 7 гадоў.

Дарэчы, вельмі вялікая верагоднасць, што і на гэты раз у нашай краіне ўсё застанецца без перамен. Рэйтынг цяперашні Аляксандра Рыгоравіча высокі,у межах 30-40 % падтрымкі, а калі яшчэ будзе звычайная актыўнасць пры датэрміновым галасаванні, то вынік чарговай "элегантнай" перамогі будзе ў раёне 75 і болей працэнтаў. Перад выбарамі як раз выйшла пастанова аб павышэнні ў РБ мінімальнай зарплаты на 54,7 % і павышэнні тарыфнай стаўкі 1-га разраду да 118 тыс. рублёў (гаварылася і аб падвышцы да 180 тысяч), што яшчэ больш задобрыць электарат.

Адзінае, што на гэты раз беларускаму лідару адмовіць у далейшай падтрымцы Расія. Да паляпшэння адносін на вышэйшым узроўні з Крамлём вельмі далёка, калі ўвогуле магчыма. Трэба забыцца пра саюзнае будаўніцтва і пра лаўры галоўнага інтэгратара на постсавецкай прасторы. У сёлетніх выбарах упершыню не ўдзельнічаюць лідары палярных палітычных сіл. Лідар правых Зянон Пазняк даўно ў палітычнай эміграцыі, а лідар партыі левых "Справядлівы свет" Сяргей Калякін сканцэнтруе намаганні пост-камуністаў за назіраннямі за выбарамі. Не ўключыўся ў барацьбу крыху раскручаны палітык Аляксандр Мілінкевіч.

Што датычыць астатніх прэтэндэнтаў, шанцы сабраць подпісы ёсць толькі рэальна ў традыцыйнага спарынгпартнёра А. Лукашэнкі, старшыні ЛДПБ, сына палкоўніка-энкавэдзіста Сяргея Гайдукевіча. Але ён сёлета дэпутатам гарсавета ў сталіцы нават не стаў, але подпісы збярэ і галасы незадаволеных на сябе адцягне і не пакіне дзеючага лідара ў адзіноцтве супраць апанентаў. Збярэ неабходныя подпісы паэт і журналіст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Уладзімір Някляеў, якога ўжо цяпер пачалі "мачыць" дзяржаўныя СМІ за тое, што ў дзяцінстве забіў кошку і не адмаўляе гэты факт сваёй біяграфіі.

На пасяджэнні ЦВК У. Някляева трое яе членаў галасавалі супраць ягонай рэгістрацыі, але 8 падтрымалі. Ёсць найбольшыя шанцы сабраць са скрыпам 100 тысяч подпісаў у экс-намесніка міністра замежных спраў Андрэя Саннікава і яшчэ пары прэтэндэнтаў, аднак у іх нешматлікія ініцыятыўныя групы. Іншыя асобы – проста выпадковыя людзі, якія думаюць, што яны здольныя кіраваць краінай. Чакаецца, што такія прэтэндэнты сойдуць з дыстанцыі датэрмінова. На дадзеным этапе выбараў не трэба чакаць іншых сенсацый. Усё ідзе па даўно адпрацаванай схеме.

Адзінае крыўдна, што ў нас няма сістэмы рэгулярнай замены палітычных лідараў праз пэўны перыяд іх дзейнасці. Ідзе 17-ты год, як перайшлі да гэтай формы кіравання краінай.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535), № 28 (536), №30 (538) 29, №31 (539), № 32 (540) , № 34 (542), № 35 (543), №36 (544), 38 (546), 39 (547) за 2010 год.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Да таго часу, калі я распачну аповед, як утварылася, хто быў касцяком польскай арміі Уладыслава Андэрса, я павінен зрабіць некалькі адступленняў, на першы погляд, далёкіх ад тэмы, але без якіх немагчыма зразумець многае і многае.

Мне расказвалі супрацоўнікі турфірм аб праведзенай рэспубліканскай канферэнцыі на тэму, як рабіць выцінанку. З кожнай вобласці на аўтобусах прывезлі ўдзельнікаў на двухдзённую канферэнцыю, дзе дамагаліся доказаць, што без ведаў стварэння выцінанкі беларускі народ загіне.

А я вось сяджу з кілішкам гарэлкі, якую выпукае Віцебск на вуліцы Рэвалюцыйнай, 45, пад назовам "Северная губерния", а знізу на трэць меншымі літарамі "Классическая", і думаю, як я буду жыць без гэтай губерніі. І затуманеныя хмелем мазгі выдаюць геніяльную тэму для канферэнцыі "Як злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, калі яна яшчэ й адсутнічае там". Вось гэтая тэма – найвышэйшая тэма, якой карыстаюцца палітыкі не адно стагоддзе і да сённяшніх дзён.

У першых маіх артыкулах я расказваў, як мае бацькі куплялі зямлю. І вось, пад рознымі адгаворкамі, бацька перастаў купляць. І ён жа не мог расказаць маме, што пан Зялёнка з-пад Шаркоўшчыны вось ужо заканчвае распрадаваць сваю зямлю нават у доўг, што Камінтэрн і яго старшыня Георгій Дзімітраў абавязалі партыйцаў КПЗБ падрыхтаваць на кожнага асадніка, лесніка, работніка адміністрацыі і гэтак далей пісьмовую асабістую справу. І ўжо перад самым роспускам Камінтэрна партыйцы ведалі, што калі Гітлер распачне вайну супраць Польшы, то Чырвоная Армія будзе на Крэсах Усходніх.

У Шаркоўшчыне да гэтага часу захаваўся драўляны будынак польскай паліцыі. Міхась Машара расказваў у сваім рамане, як камендант паліцыі новым уладам здаў пячатку, архіў і нават спіс сваіх тайных агентаў.

Я ўжо ўпамінаў артыкул Н.С. Лебедзевай "Армія Андэрса ў дакументах Расійскіх архіваў", як найбольш поўны на гэтую тэму, выданы Інстытутам Усеагульнай Гісторыі РАН. І зноўку я буду апірацца на факты гэтага артыкула.

Напад Германіі на СССР вымусіў Сталіна пайсці на супрацоўніцтва з польскім урадам Уладзіслава Сікорскага, які знаходзіўся ў Лондане. 30 ліпеня 1941 года ў Лондане пасол СССР І.М. Майскі і польскі прэм'ер Сікорскі падпісалі дамову аб узнаўленні дыпламатычных адносін СССР і Польшы, аб утварэнні на тэрыторыі СССР польскага войска, аб амністыі грамадзян Польшы, якія знаходзяцца на тэрыторыі СССР (падаецца нам. Наркома ўнутраных спраў Чэрнышова 381 222 чалавекі). 6 жніўня Уладыслаў Андэрс быў прызначаны камандуючым утвараемай польскай арміяй, які быў вызвалены з Лубянкі.

Андэрс у 1914 – 1917 гадах служыў у царскім войску. У 1917 – 1918 гадах служыў у польскім корпусе Доўбур-Мусніцкага, у верасні 1939 года патрапіў у палон Чырвонай Арміі. 16 жніўня 1941 года Уладзіслаў Андэрс і Зыгмунд Шышка-Богуш (начальнік польскай місіі ў СССР) дамовіліся з упаўнаважаным Генеральнага штаба Чырвонай Арміі генерал-маёрам Панфілавым аб фармаванні дывізій па 7-8 тысяч (абмундзіраванне пастаўіць Англія і ЗША, а стралковае ўзбраенне – СССР). Намеснік упаўнаважанага Генеральнага Штаба па справах вайсковых фармаванняў у СССР маёр дзяржбяспекі Г.С. Жукаў (не блытаць з Г.К. Жукавым) перадаў спіс афіцэрскага састава на 1658 чалавек. У кожным сфармаваным палку павінна быць па аднаму афіцэру ад Чырвонай Арміі і па аднаму – ад НКУС.

Прызыўныя савецкапольскія камісіі распачалі фармаваць з 23 жніўня 1941 года, а 2 - 6 верасня у Тацішчаве, Тоцку пачалі фармаваць польскае войска са штабам у Бузулуку.

На 1-ае лістапада было вызвалена з турмаў і лагераў ГУЛАГа 50 295чалавек, з лагераў ваеннапалонных – 26 997 чалавек і 265 248 спецпасяленцаў польскіх падданых у СССР. Планавалася прызваць у армію больш 100 000 чалавек. Адсутнасць узбраення, абмундзіравання і харчоў дазваляла прызваць не больш 30 000 чалавек.

25 кастрычніка 1941 года Сікорскі ў сувязі з такой заявай ураду СССР прапанаваў паслу А.Е. Багамолаву давесці да свайго ўраду прапанову ўраду РП аб пераводзе, так бы мовіць, звышнарматыўнай рэшткі ў Іран. На перамовы па гэтаму пытанню Сікорскі прыбыў 3 снежня 1941 года ў Маскву. А ў сувязі з гэтымі перамовамі Берыя 30 лістапада падрыхтаваў Сталіну даведку з даклад-насцю да аднаго чалавека колькасны састаў польскага войска: 40 961 чалавек, у тым ліку 1965 афіцэраў, 11 919 унтэр-афіцэраў, 27 677 салдат. Ступень гатоўнасці: 5 пяхотная дывізія - 14 703 чалавекі, 6-я – 12 480 чалавек, запасны полк – 5 764 чалавекі, плюс штаб арміі, будаўнічая частка. У гэтай даведцы адзначалася, што Андэрс, начальнік штаба палкоўнік Акуліцкі і камандзір дывізіі №5 Борут-Спеховіч, камандзір 6-1 генерал Такаржэўскі лаяльна адносяцца да СССР.

Па выніках перамоў Сікорскага са Сталіным дзяржаўны камітэт абароны СССР 25 снежня 1941 года ўстанавіў колькасны састаў у 96 тысяч (6 дывізій). Тэрмін адпраўкі на фронт – 15 чэрвеня.

Яшчэ ў верасні 1941 года многія дзеячы КПЗБ, зліквідаванай яшчэ ў 1938 годзе па падказцы Сталіна Камінтэрна, былі вызваны на месячную перападрыхтоўку ў Кунцава пад Масквой і адпраўлены ў армію Андэрса да паловы снежня колькасцю 81 чалавек.

31 ліпеня 1942 года ўся армія Андэрса была выведзена ў Іран. Канчаткова фармаванне арміі Андэрса было завершана 1 верасня 1942 года. Армія Андэрса,ператвораная ў другі польскі корпус, была раскідана ад Ірана і Тэль-Авіва да Егіпта.

18 красавіка 1943 года генерал Андэрс адслужыў паўсюдна малебен за супакой душы ўсіх воінаў, якія палажылі галовы ў баях з вермахтам, вязняў турмаў і папраўчых лагераў у СССР.

Узаемаадносіны Андэрса і Сікорскага абвастрыліся. У студзені 1943 года Андэрс нават патрабаваў адстаўкі Сікорскага, і Сікорскі зрабіў інспекцыйную паездку ў армію Андэрса. 4 ліпеня 1943 года яго самалёт, адразу пасля ўзлёту з брытанскай базы на Гібралтары, загінуў у моры.

Па патрабаванню Чэрчыля пяцідзесяцітысячны другі польскі корпус быў пераведзены ў Італію і падпарадкаваны саставу саюзных войск. У студзені-лютым 1944 года корпус Андэрса быў падпарадкаваны 8-й брытанскай арміі і кінуты ў бой пад Монтэ-Касіна.



Сяржант Люцыян Аксновіч, 5-ая Крэсовая Дывізія, 16-ты Львоўскі Стралковы Батальён, 2-гі Польскі Корпус 8-ай Брытанскай Арміі.

Люцыян Аксновіч паходзіў з вёскі Заазер'е (цяпер у складзе в. Дзеркаўшчына). Быў вязнем ГУЛАГу (Калыма).

У наступным артыкуле я бегла апішу бітву пад Монтэ-Касіна, дам спіс вайскоўцаў, пахаваных пад Монтэ-Касіна, з кароценькімі біяграфіямі нашых землякоў, гэта значыць з тых раёнаў, якія ахоплівае газета "Вольнае Глыбокае", закончу гэтую тэму аповедам аб войску Зыгмунда Берлінга.

Некаторыя асобы ў вялікай крыўдзе, што мала даю мясцовага матэрыялу. Пабойцеся бога. Я ж кожны артыкул пачынаю і заканчваю канкрэтнай асобай, біяграфіяй нашага земляка. А як можна напісаць хаця б малюсенькую біяграфію без напамінаў тых абставін, тых мясцін, тых падзей, у якія трапляла дадзеная асоба: дык гэта ж не помнік на магілках, дзе можна абыйсціся годам народзінаў і цераз злучок – годам смерці.

Даю слова, што ў будучых артыкулах я буду называць шмат прозвішчаў сваіх землякоў, покуль мяне не спыняць пагрозы, што я ўмешваюся ў асабістае жыццё. Але ж я законапаслушны грамадзянін, буду даваць звесткі толькі надрукаваныя ў кнігах са спасылкамі на назоў кнігі, год выпуску і выдавецтва. Праўда, гэтую ўмову я выконваў заўжды.

Вось і сёння гэты артыкул я хачу закончыць некаторымі звесткамі з біяграфій маіх землякоў, якія спрычыніліся да арміі Андэрса.

**Глінскі Кастусь** (08.02. 1906, вёска Прытычына Дзісенскага павету, – 14.06. 1987). Так сказана ў кнізе Аляксандра Адзінца "Паваенная эміграцыя...". У сапраўднасці, гэта вёска Прытыкі каля вёскі Лучайка Жабінскаўская (уладальнік – граф Жаба). Вёска знаходзіцца на паўднёвы захад ад мястэчка Лужкі і ў сучасны момант называецца Малінаўка. Кастусь Глінскі скончыў Дзісенскую гімназію, юрыдычны факультэт Віленскага універсітэту, выдаваў часопіс "Студэнцкая душа". Потым старшыня згуртавання беларускіх студэнтаў "Скарынія". 1931 – 1934 год – выдавец часопіса "Новая варта". Па заканчэнні універсітэту працаваў суддзём у Ашмянах. У восень 1939 года высланы на 8 гадоў у Архангельскую вобласць. Ад кастрычніка 1941 года у вайсковым трыбунале арміі Андэрса.

**Валянцін Шульга** – жаўнер другога польскага корпуса. Пасля вайны жыў у вёсцы Муляры Пастаўскага раёна.

**Казімер Якубовіч** – жаўнер арміі Андэрса. Пасля вайны жыў у Варапаеве Пастаўскага раёна.

**Паўлоўскі Мацей** (1912 – 2002?). Ураджэнец Глыбоччыны. Кіроўца аўтамабіля 8-1 амерыканскай арміі. Прыязжаў на радзіму ў 1994 годзе. Я яго сустракаў у аэрапорце Мінск-2, вазіў па Мінску, вазіў на Глыбоччыну. Памёр у доме састарэлых штата Ілінойс.

*Працяг будзе*



Люцыян Аксновіч у вайсковай форме Брытанскай Арміі перад самым пачаткам наступу на Монтэ Касіна ў 1944 г.



Могілкі ля Монтэ-Касіна. Монтэ-Касіна — гэта ўзвышша, якое знаходзіцца на поўдзень ад італьянскай сталіцы Рыму. На ім знаходзіцца сярэднявечны кляштар святога Бенедыкта.

■ Юлія Шарабайка,
г. Глыбокае

# Прафесія маёй мары

**Цяпер на рынку працы велізарны выбар спецыяльнасцяў. У вышэйшых, сярэдніх і прафесійна-тэхнічных навучальных установах выпускаюцца спецыялісты вузкага і шырокага профілю. У наш час кожны можа падабраць сабе спецыяльнасць па душы, каб у будучыні на любімую працу хадзіць з задавальненнем.**

Хтосьці з выбарам прафесіі вызначыўся яшчэ ў дзяцінстве, хтосьці – бліжэй да паступлення. Усё ж выбар прафесіі – гэта вельмі важны крок, які будзе вызначаць вашае далейшае жыццё. І тут пажадана абдумаць усё да дробязяў. Бо зразумець у 30 гадоў, што вы заняты зусім не той справай, і пачынаць усё нанова вельмі цяжкі крок. Ні для каго не сакрэт, што для таго, каб атрымаць добрую прафесію, для пачатку трэба атрымаць адпаведную адукацыю, скончыць інстытут ці іншую навучальную ўстанову. Калі раней дзеці мроілі пра прафесію касманаўта, то цяпер большасць людзей марыць глядзець на свет з блакітнага экрана, красавацца на вокладцы модных часопісаў, і г. д. Але як гаворыцца, марыць не шкодна, а вокладак і крутых машын на ўсіх не хопіць. Ды й з неба яны не валяцца, як не круці, а папрацаваць прыйдзецца…

Я вырашыла задаць студэнтам пару пытанняў з нагоды выбару іх будучай прафесіі. Маладзёны з радасцю падзяліліся сваімі маленькімі гісторыямі.

Пытанні:

***1. Раcпавядзіце, калі ласка, як вы патрапілі ў навучальную ўстанову, студэнтам(навучэнцам) якога з'яўляецеся? Чаму вы абралі менавіта дадзеную спецыяльнасць?***

***2. Вам падабаецца вучыцца па абранай спецыяльнасці? Ці збіраецеся працягваць вучыцца далей?***



**Панізнік Дыяна,** *18 гадоў, «Полацкі дзяржаўны аграрна-эканамічны каледж», факультэт бухгалтарскага аналізу і кантролю, 1 курс.*

**1.** Я абрала спецыяльнасць бухгалтара, таму што мяне прыцягвае рахунказводства. Я з дзяцінства цікавілася гэтай прафесіяй і загадзя вызначылася, кім я буду працаваць, калі вырасту. Я лічу, што гэтая спецыяльнасць вельмі цікавая, а праца важная. У Полацкі дзяржаўны аграрна-эканамічны каледж я патрапіла проста: перш я паступала ў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, але не прайшла па конкурсу і падала дакументы ў гэты каледж. Цяпер ані не шкадую.

**2.** Хоць я толькі пачала вучыцца і асвойваць усе тонкасці прафесіі, але магу з упэўненасцю сказаць, што вучыцца мне падабаецца. Вельмі цікава. Мне падабаецца групаваць актывы і пасівы, складаць карэспандэнцыю рахункаў і бухгалтарскіх праводак, запаўняць дакументацыю і шматлікае іншае. Я пакуль толькі вучуся ўсё гэта рабіць, і мне ўсё цікава. Вучыцца тут не занадта складана. Можна сказаць, што я не расчараваная, што сюды паступіла. У далейшым, вядома, збіраюся атрымаць вышэйшую адукацыю бухгалтара па інтэграванай сістэме. Праўда, пакуль не ведаю, вочна буду вучыцца ці завочна. Цяпер загадзя казаць пакуль нічога пэўнага не буду, проста буду імкнуцца добра вучыцца.



**Фаміноў Андрэй,** *18 гадоў, Віцебскі дзяржаўны палітэхнічны каледж, 2 курс.*

**1.** Для сябе я вырашыў даўно, што буду вучыцца і працаваць у сферы радыёэлектронікі. Хацеў паступіць на спецыяльнасць «Вытворчасць і эксплуатацыя прыбораў і апаратаў», таму што мне з дзяцінства падабалася ўсё рамантаваць. Адным словам, мяне прыцягвала радыёэлектроніка, і я вырашыў, што трэба ісці вучыцца на гэтую прафесію, каб пасля з задавальненнем хадзіць на працу. Спачатку я атрымаў працоўную спецыяльнасць «Мантажнік радыёэлектроннай апаратуры і прыбораў. Гальванік» у Віцебскім дзяржаўным прафесійным ліцэі № 5 прыборабудавання, а затым паступіў у гэты каледж па роднаснай спецыяльнасці.

**2.** У гэтым каледжы вучыцца мне вельмі падабаецца. Абраная мною прафесія вельмі цікавая. Выкладчыкі тут добрыя: усяму навучаць, усё растлумачаць. У мяне тут добрыя сябры. Я збіраюся працягваць далей навучанне і атрымаць вышэйшую адукацыю.



**Крупская Аксана,** *19 гадоў, Пастаўскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж с/г вытворчасці, 1 курс.*

**1.** Дзяўчаты даўно распавядалі пра гэты каледж, і я мэтанакіравана хацела сюды паступіць, таму што мне ў школе падабалася матэматыка, і ў цэлым падабалася весці розныя падлікі і запаўняць дакументы. Правучыўшыся першыя 10 месяцаў і атрымаўшы дыплом рахунказводa і кантралёра-касіра, я зразумела, што не памылілася ў выбары прафесіі і жадаю працягнуць вучыцца ў гэтым кірунку і атрымаць прафесію бухгалтара сярэдняга звяна.

**2.** Мне вельмі падабаецца вучыцца па спецыяльнасці «Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль». Мне здаецца, што гэта спецыяльнасць дае магчымасць шмат дзе ўладкавацца, калі ты будзеш добрым прафесіяналам. Мне падабаецца вучыцца ў гэтым каледжы, таму што тут вельмі добрыя выкладчыкі і цікавыя прадметы. Я збіраюся працягваць навучанне ў Полацкім дзяржаўным універсітэце.



**Якаўлеў Андрэй,** *20 гадоў, Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт, 1курс, механіка-тэхналагічны факультэт .*

**1.** Мне заўсёды падабалася механіка, машыны і ўсё, што звязана з машынамі. Таму я абраў спецыяльнасць «Тэхналогія машынабудавання» і вырашыў, што ў будучыні буду інжынерам. Я лічу, што гэта прафесія мае будучыню. Ва ўніверсітэт я паступіў проста: здаў тры ЦТ, прайшоў па конкурсе.

**2.** Вучыцца ва ўніверсітэце мне падабаецца. Падчас вучобы я пазнаю шмат новага і цікавага. Прафесія мне падабаецца. Я вельмі задаволены, што паступіў у гэты ўніверсітэт.



**Хмялеўская Юлія,** *18 гадоў, Віцебскі дзяржаўны прафесійны ліцэй № 5 прыборабудавання, 3 курс.*

**1.** Прагэту навучальную ўстанову я прачытала на яго афіцыйным сайце. Паглядзела, і мне спадабалася. Я яшчэ са школы захаплялася інфарматыкай і была з камп'ютарамі на «ты», таму падала дакументы на спецыяльнасць «Апаратар ЭВМ». Як мне здаецца, гэта прафесія цяпер запатрабаваная. Спецыялісты, якія валодаюць камп'ютарам, патрэбныя ўсюды. Пасля сканчэння ліцэя ёсць магчымасць пайсці па непарыўцы.

**2.** Мне, безумоўна, падабаецца вучыцца па абранай спецыяльнасці. Я тут атрымліваю шмат цікавага і пазнавальнага. Я, вядома, збіраюся працягваць вучыцца далей, бо, я думаю, у наш час без вышэйшай адукацыі не абысціся. Усюды патрэбныя высокакваліфікаваныя спецыялісты.



**Аксёнаў Уладзімір,** *17 гадоў, Пастаўскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж с/г вытворчасці, 2 курс.*

**1.** Адразу пасля школы я паступаў на апаратара ЭВМ, таму што мне вельмі падабаецца праграмаванне. Але, на жаль, я не паступіў. Пайсці ў гэты каледж па спецыяльнасці «Муляр», «Кіроўца» мне прапанаваў бацька. У прынцыпе, я сам быў не супраць, бо лічу, што будаўнічая спецыяльнасць вельмі патрэбная. Як мне здаецца, будаўнік ніколі не застанецца без працы. Таксама мне патрэбныя кіроўчыя правы. Наогул, я думаю, працоўная спецыяльнасць ніколі не перашкодзіць.

**2.** Вучыцца мне падабаецца. Тут добры калектыў. Вучыцца не складана. Але працягваць далейшае сваё навучанне па гэтай прафесіі я, напэўна, не буду. Я хачу паступіць на праграміста і атрымаць вышэйшую адукацыю. Як я лічу, у наш час важна мець вышэйшую адукацыю.



**Карніцкая Наталля,** *18 гадоў, Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй, 3 курс.*

**1.** З дзяцінства ў мяне была мара стаць кухарам. З цягам часу, вядома, змяняўся выбар прафесій, але я ўсё ж вырашыла спыніцца на кухары. Таму я паступіла ў гэты ліцэй на спецыяльнасць «Кухар, гароднінавод, апаратар машыннага даення, аператар жывёлагадоўчых комплексаў і механізаваных фермаў». Цяпер ані не шкадую. Тут я пазнала гэтулькі ўсяго новага і цікавага. Я думаю, што прафесіі, якія я атрымліваю, цяпер запатрабаваны. Хачу атрымаць вышэйшую кваліфікацыю і разрад. Спадзяюся, я буду карысная грамадству.

**2.** Мне вельмі падабаецца вучыцца ў гэтым ліцэі, таму што апроч ведаў, якія тут даюць па прафесіі, тут можна навучыцца правільна трымацца ў грамадстве, зносінам з людзьмі і шмат чаму іншаму. У нас працуюць выдатныя педагогі і майстры, да якіх можна заўсёды звярнуцца за дапамогай, за парадай. Я скончу ліцэй, і апроч атрыманых ведаў застануцца добрыя ўспаміны пра тых людзей, з якімі мне давялося мець зносіны на працягу трох гадоў вучобы. У далейшым я вучыцца пакуль не збіраюся, а потым час пакажа.



**Ціўнель Віктар,** *17 гадоў, Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй, 2 курс.*

**1.** Я паступіў менавіта ў гэты ліцэй для атрымання прафесіі, таму што я лічу, што тут для гэтага добрыя ўмовы. Я абраў спецыяльнасць «Слесар, трактарыст, кіроўца», таму што жадаю стаць кіроўцам. Цяпер атрымліваю катэгорыю «З» грузавога аўтамабіля для таго, каб паступіць у Гарадоцкі каледж ці завочна ва ўніверсітэт.

**2.** Мне вельмі падабаецца вучыцца па абранай спецыяльнасці, таму што тут вучаць шмат якім цікавым рэчам. Маімі любімымі прадметамі з'яўляюцца «трактары», «с/г машыны». Цяпер шмат новай тэхнікі, на якой складана працаваць і нас гэтаму тут навучаюць. На занятках распавядаюць пра розныя віды тэхнікі, мы разглядаем устройства машын на плакатах, а затым на практыцы. У нас у ліцэі шмат тэхнікі, таму вучыцца тут вельмі цікава. Я збіраюся працягваць сваё далейшае навучанне для падвышэння кваліфікацыі. Бо ўсім патрэбныя добрыя спецыялісты.

*Заканчэнне будзе.*

# Закон краіны прыйдзецца паважаць

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

1 кастрычніка 2010 года немалады мужчына Н., грамадзянін Расійскай Федэрацыі прыехаў у госці да сваёй знаёмай у г. Полацк. Сядзець цэлы дзень у кватэры не хацелася і вырашыў «госць» трошкі размяцца. А бо, ён госць у нашай краіне, значыць, законы гасціннай дзяржавы яго не датычаць. Балазе ў машыне ён заўсёды возіць сеткі, якімі ў суседняй краіне, напэўна, можна лавіць адкрыта. Прыехаў на раку Нача ў Полацкім раёне, спакойна раскінуў сеткі і паехаў да знаёмай адпачываць, прадчуваючы добры ўлоў і смачную юшку.

Раніцай, 2 кастрычніка, зняўшы браканьерскія сеткі, грамадзянін Н. вырашыў да злоўленай рыбы дадаць грыбкоў і з мэтай іх збору заехаў у Галубіцкую пушчу на тэрыторыі Глыбоцкага раёна. Толькі не ўлічыў наш «госць», што супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі РАУС хоць і радыя гасцям, але сваю працу ведаюць і робяць добра. Спыніўшы ў лясным масіве аўтамашыну грамадзяніна Н., правялі яе дагляд і выявілі ў багажніку браканьерскія сеткі, мокрую гумовую лодку і незаконна злоўленую рыбу. Як не імкнуўся наш «госць» выкруціцца, прыкрываючыся знаёмствам з таямнічымі і ўплывовымі людзьмі, але адказваць яму прыйдзецца па поўнай, і закон краіны, дзе ён знаходзіцца, прыйдзецца паважаць.

Два маладыя жыхары г. Глыбокае не сталі турбаваць сябе браканьерскімі снасцямі, а проста заехалі на сажалкі рыбгаса «Навінкі» Пастаўскага раёна і, карыстаючыся часовай адсутнасцю аховы, налавілі аж 15 кг. карпа, але толькі памкнуліся ехаць дахаты, а тут супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Зараз прыйдзецца адказваць за крадзеж сажалкавай рыбы, а карп сапраўды можа стаць залатым.

А вось жыхар г. Полацка грамадзянін І. нічога лепш не прыдумаў, як знаходзячыся ў рыбгасе «Навінкі» залез у зімавальную сажалку і выкраў 18 асобінаў сома еўрапейскага. Выкрадзеная рыба пацягнула на прыстойную суму, якая разам з накладзеным штрафам можа аказацца амаль у 2 млн. рублёў, дармавая рыбка сёння абыходзіцца дорага.

Гэта толькі 3 прыклады затрымання парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі, на жаль, такіх прыкладаў можна прывесці шмат.

Пра ўсе правапарушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Часам я не ведаю, дзе я працую і за каго працую

■ **Алесь Гай**

**У 37 нумары газеты “Вольнае Глыбокае” быў апублікаваны мой артыкул “Каму патрэбна такая дапамога?” Я сам не спадзяваўся, што ён будзе мець такі розгалас сярод чытачоў нашай газеты. Асабіста бачыў, як у Бортніках на ўборцы ільну людзі чыталі газету, а ў аўтобусе толькі і было чутна: “Ты не чытала “Вольнае Глыбокае”? Пачытай, там пра нас артыкул ёсць?”**

Аўтару гэтых радкоў 21 верасня прыйшлося прыняць удзел у Бортніках на ўборцы ільну. Бачна было, што справы змяніліся ў лепшы бок. На полі былі два прадстаўнікі Плiскага ільнозавода. Адразу з ранку быў дадзены загад, каму чым займацца. Ніхто ўжо не перапісваў працуючых. А было сказана, што прадстаўнікі завода пройдуць па полі пад час працы і перапішуць працуючых. Дзякуй газеце, бачна, што крыху заварушыліся і на заводзе.

Аўтар гэтых радкоў хацеў бы прадоўжыць гэту тэму – тэму аказання шэфскай дапамогі калгасам. Да мяне звярнулася адна жанчына – актыўная ўдзельніца гэтай дапамогі. Па-першае, вельмі прасіла не называць установу, дзе яна працуе і яе імя.

– Я працую ва ўстанове, дзе толькі два мужчыны, а ўсе астатнія жанчыны, - кажа суразмоўца. Калі лічыць ад вясны, дзе прымала ўдзел у падборцы камянёў, дык я ўжо адпрацавала 22 дні, з іх 6 – у выхадныя. Я таксама за шэфскую дапамогу калгасам, бо ядзім мы мяса і хлеб, і булку з маслам. Я маю дваіх дзяцей. Чакаеш гэтых выхадных дзён: патрэбна памыць бялізну, у доме прыбрацца, ды і шмат іншых спраў. А калі? Практычна кожны тыдзень дырэктывы, тэлефанаграмы, падпісаныя намеснікам старшыні В. М. Пяткевічам. Паколькі з ільном. Вось новая тэлефанаграма паважанага В. М. Пяткевіча ад 16. 09.2010 № 733.

«Кіраўніку.

Тэрмінова прыступіць да абкошвання драўнінакуставой расліннасці на прыдарожных палосах, згодна замацавання. Працу выканаць да 22. 09».

Як я казала раней, у нашай установе працуе два мужчыны. Няма ў нас бензакасілак, няма ў нас ручных кос. Пытанне паважанаму В. М. Пяткевічу: “Чым касіць траву, чым сячы жанчынам гэтыя кусты?” Ці гэта жаночая праца? Як я ведаю, у нас у раёне ў дарожнай гаспадарцы – дзве арганізацыі ДРБУ № 145 і ДЭУ№ 35. Кожны павінен займацца сваёй справай. У такім становішчы як я – вельмі шмат жанчын. Канечне, можна адмовіцца працаваць, але кіраўнік скажа: “Бяры кніжку і развітвайся з работай. На тваё месца ў мяне ёсць кандыдатура». Вось так!

Ёсць у дарожнай службы касілкі, ёсць штат працуючых – хай яны і падтрымліваюць прыдарожныя палосы ў належным стане.

На маю думку, раённая ўлада штосьці тут перагінае. Я ўжо два разы была на ўборцы морквы – дапамагала кансерваваму заводу. “Часам я не ведаю, дзе я працую і за каго працую!” – закончыла жанчына свой маналог.

Аўтар гэтых радкоў даведаўся, што за Цэнтральнай раённай бальніцай таксама замацаваны ўчастак дарогі для абкошвання і ўборкі. Цікава глядзець, як хірургі, тэрапеўты махаюць косамі і сякерамі ўздоўж дарогі.

Я падтрымліваю гэтую жанчыну. Кожны павінен займацца сваёй справай. Навошта кіраўніцтву Плiскага льнозавода ці Глыбоцкага кансервавага завода аб чым думаць? Шэфы дапамогуць. Нядрэнна было б, каб кіраўніцтва раёна падумала на гэту тэму.




**Да непазнавальнасці змяніўся цэнтр мястэчка Бягомль. Колькі часу таму, пасля рэканструкцыі была адчынена, фактычна, новая аўтастанцыя.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Увага! Новы фотаконкурс**

## Людзі і выбары

Інтэрнэт-сайт SVABODA.ORG праводзіць фотаконкурс, прысьвечаны штодзённаму жыцьцю падчас выбарчай кампаніі. Здымíце падзеі, твары, сытуацыі і прышліце на адрас radiosvaboda@gmail.com.

Рэкамэндаваны памер фотаздымка: 800 х 600 піксэляў, разьдзельнасьць – 72 dpi.

Усе аўтары апублікаваных здымкаў атрымаюць флэшку 4 GB, а пяць пераможцаў атрымаюць відэакамэру Flip.

Падвядзеньне вынікаў фотаконкурсу, вызначэньне пераможцаў і ўганараваньне адбудуцца пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

Дасылаючы здымак на svaboda.org, Вы павінны ведаць, што фотаздымак трапляе пад правілы Радыё Свабода. Здымак не аплачваецца, мы пакідаем за сабой права скарыстаць яго на сайтах Радыё Свабода, а таксама ў іншых СМІ. Пры гэтым Вы захоўваеце аўтарскае права на здымак, і мы пазначаем Ваша імя пад здымкам. Радыё Свабода ня можа гарантаваць, што мы апублікуем усе вашыя здымкі. Пры адборы да публікацыі перавага даецца актуальным здымкам падзеяў, людзей, сытуацый. Радыё Свабода захоўвае за сабой права рэдагаваць камэнтары да фотаздымкаў. Здымкі рэпартажнага характару павінны быць зроблены без ужываньня Фоташопу і іншых мантажных сродкаў і прыёмаў, якія скажаюць рэальную карціну.



# Па выніках праверак прыватнага сектара МНС вынесена больш за 5 млн. прадпісанняў

**Па выніках праверак прыватных дамоў з пачатку года супрацоўнікамі МНС вынесена больш за 5 млн. прадпісанняў. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі 4 кастрычніка ў Мінску паведаміў начальнік упраўлення нагляду і прафілактыкі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Сяргей Салановіч.**

Паводле яго слоў, праверкі па выкананні насельніцтвам норм супрацьпажарнай бяспекі праводзяцца рэгулярна. Сёлета па стане на 1 кастрычніка праверана больш за 1,5 млн. прыватных домаўладанняў, больш за 5 тыс. грамадзян прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці.

Сярод асноўных праблем спецыяліст назваў парушэнні правілаў эксплуатацыі сістэм пячнога ацяплення і электраабсталявання. «Галоўным чынам, людзі не прыслухоўваюцца да рэкамендацый супрацоўнікаў МНС: печы не правяраюцца на наяўнасць трэшчын, коміны не прачышчаюцца, сказаў ён. Таксама актуальная праблема самаробных электраабагравальных прыстасаванняў. Акрамя гэтага, да пажараў прыводзяць так званыя жучкі, якія ўстанаўліваюцца ў лічыльніках электраэнергіі».

Як паведаміў Салановіч, сёлета з-за парушэнняў правілаў эксплуатацыі пячных сістэм ацяплення ў Беларусі адбыліся 884 пажары, з-за няспраўнасці электраправодкі, электрапрыбораў 653. Паводле яго слоў, прыкладна такая ж колькасць пажараў па гэтых прычынах здарылася і летась. Колькасць загінулых спецыяліст не ўдакладніў.

*Таццяна Дарашчонак, БелаПАН.*

**МНС ІНФАРМУЕ**
**НА 4.10.2010.**
**Віцебская вобласць:**
Пажараў-1068;
Гібель людзей -160, з іх дзяцей няма;
Урон – 2 148 700 000 руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 50;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 87 850 000 руб.

